Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 730.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Аўторак, 7 ліпеня 1998 г. № 71 Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Пяць прафсаюзаў – адна праблема

**Прадстаўнікі пяці буйнейшых прамысловых прафсаюзаў Беларусі падалі ў Мінскі гарвыканкам заяўку на правядзенне 15 ліпеня масавай акцыі пратэсту.**

Як паведамляе БелаПАН, заяўка пададзеная прадстаўнікамі прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, прафсаюза металістаў, работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці, абароннай галіны, а таксама энергетыкі і паліўнай прамысловасці. Сваёй акцыяй прафсаюзы збіраюцца прыцягнуць увагу дзяржаўных органаў да рэзкага падзення ўзроўню жыцця насельніцтва, невыканання працоўных правоў і гарантый, невыканання Генеральнага пагаднення паміж урадам, прафсаюзамі і наймальнікамі.

Мяркуецца, што шэсце і мітынг пройдуць 15 ліпеня з 16:30 да 18:00 у парку імя 50-годдзя Кастрычніка; заяўленая колькасць удзельнікаў складае 10 тысяч чалавек. Аналагічныя акцыі запланаваныя ў гэты дзень і ў двух абласных цэнтрах — Гомелі і Гродне.

Але ў Гродне гарадская ўлады забаранілі праводзіць мітынг. Планавалася, што ў ім будуць удзельнічаць рабочыя чатырох заводаў. Для правядзення мерапрыемства яны прасілі плошчу Леніна перад гарвыканкамам. Прадстаўнікі прафсаюзаў лічаць, што ўлады не мелі права проста адмаўляць рабочым, яны павінны былі хаця б прапанаваць іншае месца для правядзення мітынгу. Ініцыятары акцыі яшчэ спадзяюцца, што ім удасца атрымаць дазвол.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, Сяргей МАКСІМОВІЧ**

*Сталічны рэпартаж нашых карэспандэнтаў*

## Тры разгульныя дні



Раніцай 3 ліпеня цэнтр Мінска нагадваў хутчэй не святочны горад, а зону баявых дзеянняў ці стыхійнага бедства. Праспект Ф.Скарыны ад цырка да плошчы Незалежнасці і прылеглыя да яго вуліцы былі перакрытыя моцнымі міліцэйскімі кардонамі, прайсці праз якія можна было толькі па спецыяльным пропуску. У метро гучалі паведамленні, што на станцыях Купалаўская і Кастрычніцкая цягнікі не спыняюцца. Пасажыры, якім трэба было рабіць на гэтых станцыях перасадку, каб дабрацца ў іншы раён горада, былі вымушаныя падымацца на паверхню. Я асабіста прабіраўся на плошчу Незалежнасці дварамі, пераадолеўшы на шляху некалькі платоў.

А тым часам на галоўнай плошчы краіны пачынаўся грандыёзны спектакль. Міністр абароны генерал А.Чумакоў далажыў Лукашэнку, што ягоныя падначаленыя да параду гатовыя. Сам галоўнакамандуючы Лукашэнка прамаўляў з цэнтральнай трыбуны, на якой побач знаходзіліся прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, кіраўнік адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч, спікеры палатаў Шыпук і Малафееў, а таксама сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман у новенькай генеральскай форме (дарэчы, рэдкі выпадак: Шэйман больш любіць насіць цывільныя гарнітуры).

У сваёй прамове Рыгоравіч у чарговы раз пералічыў галоўныя мэты і прыярытэты развіцця дзяржавы. Прагучалі тыя ж прыгожыя, але без канкрэтнага сэнсу словы — стабілізацыя эканомікі і пераход да яе росту, дасягненне годнага ўзроўню жыцця ўсяго народа. Называў Лукашэнка і такія прыярытэты, як умацаванне законнасці і забеспячэнне правоў і свабод грамадзянаў, актыўны ўдзел Беларусі ў міжнародных справах, а таксама заваяванне ёю высокага знешнепалітычнага аўтарытэту. Аднак размаўляць з Беларуссю з пазіцыі сілы мы не дазволім нікому, — на ўсякі выпадак папярэдзіў усіх патэнцыйных ворагаў Лукашэнка.

*(Працяг рэпартажу на стар. 2)*

## Шарэцкі паехаў з Малафеевым

**Сёння ў Капенгагене (Данія) адкрываецца штогадовая сесія Парламенцкай Асамблеі АБСЕ.**

Беларусь на ёй прадстаўляюць дзве дэлегацыі — ад Вярхоўнага Савета 13-га склікання і ад нацыянальнага сходу. У склад дэлегацыі Вярхоўнага Савета ўваходзяць Сямён Шарэцкі, Анатоль Лябедзька і Уладзімір Ніцюк. Дэлегацыю прэзідэнцкіх дэпутатаў узначальвае намеснік старшыні ніжняй палаты Уладзімір Канаплёў. Тым часам старшыня палаты Анатоль Малафееў паехаў у Капенгаген ад імя міжпарламенцкай асамблеі СНД.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Прэзідэнт вінаваты асабіста

**Міжнародная праваабарончая арганізацыя *Human Rights Watch* апублікавала 2 ліпеня чарговы даклад аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.**

Арганізацыя лічыць, што Аляксандр Лукашэнка, прэзідэнту якога на наступным тыдні пойдзе пяты год, вяртае Беларусь у эпоху рэпрэсіўсавецкага перыяду. *«У той час, калі Усходняя Еўропа вызвалілася ад рэпрэсіўнай савецкай эпохі, Беларусь паварочвае час назад,* — заявіла Холі Картнер, выканаўчы дырэктар Еўрапейскага і Цэнтральнаазіяцкага аддзялення *Human Rights Watch. — Лукашэнка асабіста мае дачыненне да парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі».*

У сваім дакладзе арганізацыя заклікае Савет Еўропы не аднаўляць Беларусь у статусе спецыяльна запрошанага. *Human Rights Watch* рэкамендуе беларускаму ўраду: неадкладна вызваліць палітычнага зняволенага Аляксея Шыдлоўскага, а таксама змяніць меру стрымання парламентарыю Андрэю Клімаву, забяспечыўшы яму правы на справядлівы суд; вызваліць Тамару Віннікаву, былога старшыню Нацбанка, з-пад хатняга арышту і забяспечыць ёй права на справядлівы суд; распачаць расследаванне масавых арыштаў і збіванняў дэманстрантаў вясною 1997 года і прыцягнуць вінаватых да адказнасці; не дапускаць затрыманняў непаўналетніх і паважаць міжнародную Канвенцыю аб правах дзіцяці; распачаць расследаванне па фактах збівання і запалохвання прадстаўнікоў апазіцыі супрацоўнікамі службы дзяржбяспекі і прыцягнуць вінаватых да адказнасці; адмяніць папраўкі да Закона аб друку і іншых СМІ, у прыватнасці, тыя палажэнні, якія абмяжоўваюць права на бесперашкоднае атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі, і тыя, якія прадугледжваюць крымінальнае пакаранне за прыніжэнне гонару і годнасці службовых асобаў.

*БелаПАН*

## ААН каштуе дорага

**Валютныя расходы на фінансаванне ўдзелу Беларусі ў дзейнасці розных міжнародных арганізацыяў ў 1997 годзе склалі каля 19 млн. долараў.**

Найбольшы ўзнос Беларусі летась прыпаў на фінансаванне ўдзелу ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У рэгулярны бюджэт ААН было ўнесена 6 млн. 200 тыс. долараў. Наступнымі па велічыні былі расходы на ўдзел нашай краіны ў розных структурах ААН: ЮНЕСКА — крыху больш за 4 млн. долараў; Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) і Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ) — прыкладна па 2 млн. долараў; ЮНІДО — 900 тыс. долараў. Узнос у Сусветную метэаралагічную арганізацыю склаў летась 536 тыс. долараў, у Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ) і Арганізацыю па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) — па 400 тыс. долараў, у Падрыхтоўчую камісію па забароне хімічнай зброі — 200 тысяч і Міжнародную арганізацыю грамадзянскай авіяцыі (ІКАО) — 190 тыс. долараў. На аперацыі па падтрыманні міру летась Беларусь выдаткавала прыкладна 1 млн. 250 тыс. долараў.

*БелаПАН*

## Пікеты ліцэістаў

**Сёння навучэнцы Беларускага гуманітарнага ліцэя разам з бацькамі зноў стануць у пікет.**

Рашэнне аб пікетаванні было прынятае на агульным сходзе. Бацькоў і вучняў не задаволіў падрыхтаваны ў Савеце міністраў праект рэарганізацыі ліцэя. На думку ліцэістаў і бацькоў, у выніку «рэфармавання» ліцэй страціць сваю адметнасць і ад ягонай цяперашняй беларускасці застанецца толькі назва. Бацькоўскі камітэт ужо атрымаў у Мінскім гарвыканкаме дазвол на пікетаванне, якое будзе адбывацца на працягу трох дзён — з 7 па 9 ліпеня. Пікеты будуць праходзіць з 12 да 14 гадзіны у адным і тым жа месцы — на скрыжаванні вуліцаў Кірава, Свярдлова і Маркса.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## У самы разгар свята



**Пяць актывістаў Хартыі-97 правялі 3 ліпеня ў Мінску акцыю ў знак салідарнасці з беларускімі палітзняволенымі.**

Разгарнуўшы транспартант «Свободу политзаключенным!», хартысты прайшлі праз увесь цэнтр горада да плошчы Незалежнасці. Сведкамі гэтай акцыі сталі дзесяткі тысяч людзей. *«Мы хацелі, —* сказаў кіраўнік прэсслужбы Хартыі-97 Алег Бебенін, *— каб людзі не забываліся, што сёння ў Беларусі па палітычных прычынах за кратамі знаходзяцца тры чалавекі — студэнт Аляксей Шыдлоўскі, дэпутаты Андрэй Клімаў і Уладзімір Кудзінаў. Акрамя таго, каля 10-ці чалавек атрымалі «за палітыку» ўмоўныя тэрміны зняволення».*

**Б.П.**

*На здымку: сяржанта міліцыі зацікавіў транспарант.*

## Леніна пераставяць да касцёла

**У Навагрудку, дзе нядаўна прыбралі стары помнік Леніну, паставяць новага «правадыра ўсіх працоўных».**

На старым месцы, дзе ён стаяў, у цэнтры плошчы цяпер будзе фантан. Ільіча начальства вырашыла перасунуць далей з вачэй, але затое ён будзе стаяць насупраць Дамініканскага касцёла. Пакуль паставілі толькі бетонны пастамент, а самога Леніна яшчэ няма. (Дарэчы, у школе пры гэтым касцёле вучыўся Міцкевіч.)

У горадзе цяпер шмат розных пертурбацый, паколькі на святкаванні 200-годдзя Адама Міцкевіча ў верасні чакаюць важнага пісьменніка — лаўрэата шолахаўскай літаратурнай прэміі А.Лукашэнку. Паўсюдна пілуюць старыя лядашчыя дрэвы, а замест іх садзяць чамусьці елкі. Руіну замкавай вежы ўмацавалі і падбетаніравалі. Вежы пагражаў абвал, бо ў апошнія гады на замкавай гары ўчыняліся гучныя канцэрты і ад моцнага гуку старая цэгла пачала асыпацца.

Дарэчы, мясцовыя патрыёты абураюцца, што ўсе гэтыя работы ў гістарычным цэнтры горада адбываюцца без удзелу спецыялістаў-археолагаў. Але ж хіба тут да археолагаў, калі штурм, аўрал і час падцiскае?

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

 



*Сталічны рэпартаж нашых карэспандэнтаў*

# Тры разгульныя дні

(Пачатак на стар. 1)

Пасля гэтай палымянай рэвалюцыйнай прамовы перад урадавай трыбунай прашпацыравалі прадстаўнікі розных родаў войск, праехала баявая тэхніка ад БТРаў да зенітных комплексаў С-300 і сістэмаў залпавага агню «Град». Следам за баявой на плошчы з'явіліся і ўзоры мірнай тэхнікі, якая вырабляецца на беларускіх прадпрыемствах. Відаць, гэты кантраст павінен быў нагадаць народу, што «мы мірныя людзі, але наш браняпоезд...» «Прагрэсіўная грамадскасць» была прадстаўленая невялікай калонай медыкаў у белых халатах, рабочых у бутафорскіх спяцоўках і групай маладых прэзідэнцкіх патрыётаў з БПСМ. Лукамольцы неслі вялікі транспарант, які паведамляў усім, што «Новое поколение выбирает» зусім не *Pepsi*, а «долг, честь и достоинство».

Святочную калону замыкалі прэзідэнцкія любімцы — спартсмены. Спачатку ішлі спартовыя ветэраны-пераможцы і прызёры Алімпійскіх гульняў, потым прадстаўнікі канькабежцаў і іншых. Маленькія дзяўчынкі-гімнасткі дрыжалі ад холаду (надвор'е было не цёплае), але мужна чакалі, калі будзе іх чарга прайсці каля трыбуны. А калі на плошчы з'явілася група біятлоністаў на ролікавых лыжах і са стрэльбамі за спіной, нехта з публікі выкрыкнуў: «Хлопцы, толькі не прамахніцеся!».

І ўсе чамусьці засмяяліся, нават міліцыянты з ачаплення.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**





3 ліпеня. Парад ваеннай магутнасці і эканамічнага росквіту народнай гаспадаркі Беларусі.

## «Махмуд, падпальвай!»

У суботу вечарам свята, якое ў народзе празвалі «святам Лукашэнкі», завяршылася пампезным феерверкам. Было запланавана, што пасля шлягеру «Гуляць дык гуляць» у выкананні Анатоля Ярмоленкі, акурат а 23 гадзіне ў небе ўспыхнуць россыпы рознакаляровых ракет. Аднак у арганізатараў феерверка нешта не спрацавала, і паўза пасля выступлення Ярмоленкі зацягнулася на 20 хвілінаў. Шматтысячны натоўп, які сабраўся на берагах Свіслачы, у раёне Палаца спорту і Траецкага прадмесця, пачаў свістаць ад нецярпення. Чуліся заклікі з вядомага кінафільма: «Махмуд, падпальвай!» Нарэшце ракетніцы спрацавалі — фантастычнае відовішча цягнулася каля 20 хвілінаў. Дарэчы, у Мінгарвыканкаме пацвердзілі, што грошы на шыкоўны феерверк узятыя з гарадскога бюджэту, але назваць суму чыноўнікі адмовіліся. Маўляў, пакуль невядома, якую частку выдаткаў возьмуць на сябе камерцыйныя фірмы.

Пасля феерверка натоўп рушыў па праспекце Машэрава ў цэнтр горада, пакідаючы бітыя і пустыя бутэлькі з-пад піва. Дабрацца да хаты было праблемай, бо гарадскі транспарт быў неверагодна перапоўнены, некаторыя вынаходлівыя маладыя людзі нават прыладкоўваліся на лесвіцах ззаду тралейбусаў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Бясплатная TV-праграма

Святочныя дні былі адзначаныя выхадам у свет новай газеты «Метро Минск», галоўная адметнасць якой заключаецца ў тым, што яна будзе распаўсюджвацца бясплатна сярод пасажыраў сталічнага метрапалітэна. Газета з'яўляецца «дачкой» аналагічнага маскоўскага выдання, якое досыць паспяхова акупляецца за кошт рэкламы — на гэта разлічваюць і ў Мінску. Праўда, у першым нумары толькі адна рэкламная абвестка, якая прапануе алкаголь «у шырокім асартыменце».

А што да зместу выдання, то самым карысным тэкстам можна лічыць праграму тэлебачання на тыдзень. Адкрываецца ж нумар партрэтам і зваротам маскоўскага мэра Юрыя Лужкова, які выказвае ўпэўненасць, што *«газета станет не только символом, но и реальным примером восстановления нормальных экономических и культурных связей между жителями двух столиц и государств»*. У гэткім узнёслым духу вытрымана амаль уся газета. У прыватнасці, чытачам паведамляецца, што *«Минску очень повезло с нынешним мэром»*, які ўжо амаль зрабіў нашую сталіцу еўрапейскім горадам. Аказваецца, у Мінску на кожным кроку *«мини-кафешки, со вкусом оформленные витрины»*, а прадаўцы паўсюль настолькі ветлівыя, што аўтарка матэрыяла, па яе словах, *«уже отвыкла от хамства и грубости в магазине, химчистке, ателье»*, — амаль Парыж. Рэдакцыя газеты «Метро Минск» абяцае кожны тыдзень радаваць чытачоў такімі вось ружовымі карцінкамі, але затое — бясплатна.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

## Чыё дзіця?

Як нам паведамілі ў прэс-цэнтры сталічнай міліцыі, святкаванні прайшлі даволі спакойна. За ўсе дні святаў з 3 па 5 ліпеня мінская міліцыя зарэгістравала 52 злачынствы. Для параўнання: толькі за адзін перадсвяточны дзень 2 ліпеня злачынстваў было 34.

Тры здарэнні міліцыянты адносяць да разраду «нетыповых». Так, у суботу ўвечары на вуліцы Якуба Коласа была знойдзеная дзіцячая каляска з дзяўчынкай 10–12 месяцаў. Хутчэй за ўсё, добра насвяткаваўшыся, бацькі проста забыліся сваё дзіця на вуліцы. Прайшло ўжо два дні, святы скончыліся, але дагэтуль ні бацька, ні маці не аб'явіліся. Цяпер іх шукае міліцыя, а дзяўчынка пакуль застаецца ў дзіцячай бальніцы.

У нядзелю супрацоўніца МАЗа, якая жыве ў прыватным доме на вул. Ангарскай, знайшла ў сваім агародзе на глыбіні 30 сантыметраў не што-небудзь, а міну часоў Другой сусветнай вайны. Сапёры вывезлі міну за горад і там знішчылі яе; так што святочныя салюты грымелі не толькі ў сталіцы.

У той жа дзень у Фрунзенскім раёне сталіцы дзядзька прынёс у міліцыю 700 грамаў ртуці. Ён распавёў, што знайшоў небяспечнае рэчыва, калі разбіраў хлявушок на прысядзібным участку сваёй маці.

За святы ў сталіцы памерла 27 чалавек. Чацвёра ўчынілі самагубства. Як і заўсёды, адным была радасць, іншым — гора.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



Такую карціну можна было назіраць на плошчы Незалежнасці напярэдадні ваеннага параду — курсантаў вучылі насіць сцягі.

## Інцыдэнт

Увогуле, падчас святаў міліцыянты паводзілі сябе надзіва карэктна. Але гэтая карэктнасць хутчэй была выкліканая нежаданнем улазіць у вялікі людскі тлум. Таму лакальныя бойкі — натуральны атрыбут сітуацыі, калі сустракаецца шмат маладых хлопцаў, — амаль паўсюль праходзілі без умяшальніцтва міліцыі, якая ў гэты час глядзела ў іншы бок. І можна зразумець: нават павялічаныя патрулі і натоўп — няроўныя супернікі.

У нядзелю свята скончылася, міліцыянтам, відаць, стала крыўдна — і яны пачалі шукаць сабе занятак. Людзей на вуліцах пачалі забіраць ні за што. Карэспандэнт НАВІНАЎ трапіў у апорны пункт міліцыі толькі за тое, што абапіраўся на парапет падземнага пераходу каля універсама «Цэнтральны». Дастаткова было на міліцэйскі загад «отойти от парапета» толькі пацікавіцца, чаму нельга стаяць на гэтым месцы, як праз пару хвілінаў бравыя хлопцы з «казла» з дзяржнумарам МН0295 дапамаглі дабрацца да пастарунка каля Палаца культуры імя Дзяржынскага.

Там сустрэў класічны міліцэйскі набор: «прафілактычнае» збіццё, ад якога не застаецца сінякоў; шматпавярховыя мацюкі і пагрозы; нарэшце, спроба складання пратаколу тыпу *«выражался нецензурной бранью, оказывал сопротивление работникам милиции»*. Праўда, журналіста ўрэшце вырашылі адпусціць. Але простым студэнтам ці рабочым спаленыя на свяце горада міліцэйскія нервы каштавалі нашмат даражэй: да адміністрацыйнай адказнасці было прыцягнута 967 чалавек, хоць, па словах супрацоўнікаў міліцыі, гэта меней, чым звычайна.

**Алесь САДОЎСКІ**

## За «пабочныя наступствы» гарвыканкам не адказвае

Смецце на тратуарах ды велізарныя чэргі побач з грамадскімі прыбіральнямі сталі такімі ж прыкметамі дзяржаўных святаў у Мінску, як чырвона-зялёныя сцягі на кожным слупе, чорна-блакітныя мундзіры міліцыянтаў на кожным рагу ды песні пра Маскву ў выкананні аркестра Фінберга.

Асабліва ўразілі памеры «туалетнай праблемы». Тое, што ў



Гэтым разам самалёты лёталі не над цэнтрам сталіцы, а ў прыгарадзе.

цэнтры Мінска не хапае гэтых пабудоваў — не навіна для кіраўніка гарвыканкама Ярмошына. Летась пасля святаў горада мэра справядліва і моцна крытыкавалі. Святы гэтага года, аднак, паказалі, што тая крытыка не падзейнічала. У пятніцу пасля канцэрта Алёны Свірыдавай, паслухаць якую на Кастрычніцкую плошчу прыйшло некалькі дзесяткаў тысячаў мінчанаў, туалеты вытрымалі сапраўднае нашэсце. Нават у мужчынскую прыбіральню на вул.Леніна стаяла доўгая чарга, жанчынам давялася чакаць «шчаслівага імгнення» амаль гадзіну. Але ж колькасць выпітага піва яўна перавышала запас трываласці, пачаўся наступ на бліжнія двары.

Назаўтра мінская міліцыя прыняла захады. Двары былі перакрытыя, чэргі да прыбіральняў адпаведна падоўжыліся. За гадзіну да феерверка, калі публіка пачала перацякаць з праспекта Скарыны на праспект Машэрава, у туалеце непадалёк рэстарана «МакДональдс» адбылася сапраўды унікальная падзея: у мужчынскую прыбіральню выстраілася паралельная чарга — жаночая. Праўда, мужыкоў кабеты прапускалі толькі да сцяны — азірацца ім было забаронена.

Але галоўная «бітва» разгарнулася на вялікім полі побач з Палацам спорту. Тры дні свята пакінулі ў гэтай частцы праспекта Машэрава горы шкляных і пластыкавых бутэлек, пакетаў, цыгарэтных пачкаў і паперы ўсіх колераў. Трэба прызнаць, што кантэйнеры для смецця былі, але напоўніліся яны нашмат хутчэй, чым разлічвалі арганізатары свята. А мяркуючы па паху за кіёскамі, дзе два дні гандлявалі півам, удзельнікі свята не асабліва саромеліся. Але што было рабіць? Капітальных прыбіральняў на праспекце Машэрава няма ніводнай, у часовыя было не дастаяцца, а бліжэйшыя кусты — на другім беразе Свіслачы.

Карацей кажучы, народ весяліўся, гуляў і піў. А гарадскія ўлады ў чарговы раз знялі з сябе адказнасць за «пабочныя наступствы».

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

*Фота Irex/ProMedia*

## Падаткі па тэлефоне

**З 1 ліпеня ў Брэсцкай вобласці працуе «гарачая» тэлефонная лінія, арганізаваная дзяржаўным камітэтам фінансавых расследаванняў.**

Цяпер кожны, хто мае інфармацыю аб парушэнні падатковага заканадаўства, можа патэлефанаваць інспектару ў любы час сутак. На думку мясцовых уладаў, гэта дасць магчымасць выявіць шматлікія факты парушэнняў і папоўніць дзяржаўную кішэнь.

*БелаПАН*

## Мечыслаў Грыб, міс Беларусь і парашутысты

**У мінулыя выхадныя ў райцэнтры Дзятлава адзначалі 500-годдзе гэтага мястэчка.**

На цэнтральным пляцы, дзе захавалася старая забудова, дамы адмыслова аздобілі да свята: павесілі каваныя брамы, агароджы і шыльды, вырабленыя кавалямі з гродзенскай фірмы «Крыга». Там жа, на пляцы, апускаліся з неба парашутысты і адбываўся паказ модаў дзяўчатамі з гродзенскай школы манекеншчыц «ЮніАрт». Сярод іх была міс Беларусь–98 студэнтка матэматычнага факультэта Гродзенскага універсітэта Святлана Крук. Сярод публікі знаходзіўся экс-старшыня ВС Мечыслаў Грыб, які прадстаўляе сваіх землякоў-дзятлаўчан у Вярхоўным Савеце 13-га склікання.

У адзіны ў мястэчку рэстаран выстраілася вялікая чарга. У першую залу нікога не пускалі: там быў заказаны банкет для начальства. У другой зале кармілі парашутыстаў. А на вуліцы гучаў «Гімн Дзятлава», напісаны адмыслова да свята гродзенскім кампазітарам Я.Петрашэвічам.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## «Фрагмэнты» беларускай філасофіі

Выйшла ў свет першае выданне з серыі «Бібліятэка «Фрагмэнты» — кніга вядомага беларускага філосафа і культуролага Валянціна Акудовіча «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека». У гэтай жа серыі бліжэйшым часам плануецца выпусціць цэлы шэраг выданняў. Сярод іх — кнігі «Рэчаіснасць» Алеся Разанава, «Шалёны вертаградар» Міхася Баярына, «Менская опера» і «Вытлумачэньні руінаў» Ігара Бабкова, «Казкі жыцьця» Сяргея Дубаўца, «Цела і тэкст» Юрася Барысевіча, «Мой Багушэвіч» Валеркі Булгакава і інш. Кнігі «Бібліятэкі «Фрагмэнты» можна будзе набыць у сталічных крамах Дом кнігі «Веды», «Кнігарня пісьменніка», «Светач» і ў Цэнтральнай кнігарні.

*БелаПАН*

## *Падзяка*

Прашу праз вашу газету выказаць маю шчырую ўдзячнасць асобам і грамадскім арганізацыям, якія павіншавалі мяне з 60-годдзем. Хачу запэўніць сяброў дэмакратычных партыяў — АГП, БСДП, БСДГ і іншых, што буду і ў далейшым паслядоўным прыхільнікам аб'яднання нашых намаганняў у барацьбе з дыктатарскім рэжымам.

**Ю.ХАДЫКА,**
*прафесар, намеснік старшыні БНФ*

 

ДАГЕРРОТИП

# Обмен любезностями

**Семен БУКЧИН**

*«Да, как ни прискорбно, значительная часть нашего еще совсем недавно героического и трудолюбивого народа в настоящее время такая же пьянь и недоумки, как и президент, который им дает возможность пропивать и прожирать все, что построено и защищено старшими поколениями».*

Это гражданин России, житель г.Орла П.К.Гнездилов кроет так и свой народ, и своего президента на страницах журнала «Наш современник» (№ 5, 1998 г.).

Трудно сказать, подаст ли российский народ на П.К.Гнездилова в суд за оскорбление чести и достоинства. Народ этот на протяжении веков чего только в свой адрес не слышал. Ухо привычное. А вот президент Б.Н.Ельцин, печатно обозванный тем же жителем Орла «пьянью и недоумком», неужто смолчит? Полагаю, что так оно и будет. Почему? А уровень оскорбления не тот. Ну кто такой, в конце концов, некий Гнездилов из областного Орла? И что такое журнал «Наш современник», выходящий тиражом 14.000 экземпляров?

Вот если бы такими словами по телевизору, да еще из соседнего государства шарахнули, тогда другое дело. Тут и посла можно на ковер вызвать, и ноту протеста организовать, потребовать объяснений и извинений.

И вообще это, как говорят грамотные люди, две большие разницы: у себя дома костерить свое же высшее начальство или поливать пусть и из-за ближнего бугра соседнего президента. Андрей Черкизов из «Часа быка» на НТВ, комментируя отъезд иностранных послов из Беларуси, позволил себе порассуждать о «придурочном болване». Передачка то шла в семь утра. Кто ее смотрел в такую рань? Тем не менее руководство НТВ извинилось. Андрея Черкизова с канала убрали, передачу соответственно прикрыли.

Другие масштабы! Большая политика! Хотя, на мой взгляд, «придурочный болван» значительно уступает, в смысле оскорбительности, «пьяни и недоумку». Но когда во весь рост встает перспектива лишиться белорусской аудитории, становится не до филологических изысканий. Не дураки же сидят в руководителях на НТВ.

Имея в виду эти оттенки и обстоятельства, совершенно непонятна болезненная реакция газеты «Известия» на слова А.Лукашенко в Кран-Монтане насчет того, что, мол, чтобы стать членом Совета Европы, «нужно просто расстрелять парламент танками, как это сделали некоторые». Известинский журналист М.Юсин считает это «оскорбительным высказыванием в адрес России» и даже «предательством союзника». А по-моему, это верх дипломатичности. Чего обижаться-то? Ничего конкретного про Россию не сказано. Упомянуты какие-то «некоторые»... Мало ли какие парламенты расстреливались танками? Нужно помнить, что у нашего все-таки историческое образование. Человек может глубоко копнуть...

И насчет «предательства союзника» чересчур сильно сказано. Во-первых, предательства никакого с белорусской стороны и не было. Во всяком случае, не Лукашенко развалил великий Советский Союз в Вискулях. А во-вторых, насчет союзничества тоже надо разобраться. Россия, русский народ — это действительно союзники Беларуси. Но никак уж не г-н Ельцин с его антинародной «дерьмократической камарильей»! Улавливаете разницу, коллега Юсин? Мы в Беларуси уже давно ее хорошо чувствуем.

А если уж очень обидно становится за своих начальников в Москве, то смягчить эту горечь может опять же журнал «Наш современник». В том же пятом номере такие перлы попадаются. Ну вот хотя бы у Владимира Нилова: *«Ельцин не президент, не ее первый «всенародно избранный» глава государства, а первый и единственный государственный изменник, которому обманом народа удалось пробраться на этот высокий пост... Ельцин — величайший подлец и негодяй из негодяев, служит Западу и стремится доказать ему свою преданность».*

Не слабо, не правда ли? Но ежели такое у себя под боком терпится, отчего же не быть снисходительным к, можно сказать, ласковой, товарищеской критике настоящего друга России?

Да и Андрей Черкизов по сравнению с Владимиром Ниловым — просто расшалившееся дитя. Хотя и забывшее известную формулу насчет Юпитера и Быка.

## Российские пираты — первые в Европе

**Почти 90 процентов российского рынка компьютерных программ составляет пиратская продукция.**

К такому выводу пришли специалисты двух крупнейших международных ассоциаций производителей и издателей программного обеспечения — *BSA* и *SPA*. Общая сумма ущерба, нанесенного российскими пиратами за последний год, оценивается экспертами в 251 миллион долларов. Это — самый высокий результат в Европе. Второй следует Польша (107 миллионов), третьей — Чехия (51 миллион). В целом же по миру, по данным *BSA* и *SPA*, нелегально установлено примерно 40 процентов используемых программ. Из-за пиратства индустрия ежегодно недосчитывается 10 миллиардов долларов прибыли.

## Полицейский живот — на контроле у президента

**Прошла всего неделя с тех пор, как вступил в должность новый президент Филиппин, Джозеф Эстрада, в прошлом — местная кинозвезда. И сразу же принялся наводить порядок в стране — так, как он это себе представляет.**

Первыми президентскими «жертвами» стали филиппинские полицейские. По мнению Джозефа Эстрады, они «слишком растолстели» — а это недопустимо для блюстителей порядка.

Согласно декрету, подписанному на днях Джозефом Эстрадой, каждый из 110 тысяч полицейских Филиппин, включая высшее руководство, должен решить для себя: либо он немедленно худеет, либо уходит с государственной службы.

*На снимке: от строгого контроля за объемом живота не уйдет ни один филиппинский полицейский.*

Генерал Авелино Разон, начальник полиции филиппинской столицы — Манилы, рекомендует подчиненным для успешного похудения заняться танцами. Генерал считает, что танцы не только помогают похудеть, но и делают человека более гибким и пластичным.

## Большинство немцев счастливы

**Этот, казалось бы, спорный вывод сделали эксперты Института исследований общественного мнения Германии, которые провели репрезентативный опрос.**

По данным исследования, лишь 2,4 процента жителей чувствуют себя «скорее несчастными». Более 81 проц. из тысячи опрошенных граждан старше 14 лет заявили, что они «скорее счастливы» или «очень счастливы». В понятие «личное счастье» для немцев прежде всего входят такие компоненты, как дружба, семья и любовь. Затем «счастливый бюргер» непременно включает в перечень своих жизненных ценностей секс, работу, деньги и веру.

Наиболее интересным оказался тот факт, что полностью подтвердился устоявшийся в сознании многих людей стереотип педантичного и трудолюбивого немца. Ответ на вопрос, каким образом можно достичь счастья, был почти однозначным. Более 80 процентов немцев убеждены, что счастье нужно зарабатывать.

## В память Петлюры

**В Польше решили увековечить память атамана Семена Петлюры.**

На одной из улиц города Тарнув открыта мемориальная доска. В церемонии памяти атамана приняли участие представители польского сейма и посол Украины в Варшаве Петро Сардачук. В своей речи посол заявил, что *«Польша была единственной, кто подал руку молодому украинскому государству в борьбе с общим врагом, каким был большевизм».*

## Штраф за прогул

**Городской суд Манчестера принял на днях историческое решение.**

Он оштрафовал на тысячу фунтов (1,6 тысячи долларов) родителей за «неспособность в течение длительного периода предотвратить прогулы» их 15-летнего сына-школьника.

Это максимальный штраф, который по новому законодательству налагается в Великобритании за такую провинность. Оно принято после того, как премьер-министр Тони Блэр призвал объявить войну прогулам в британских школах. Явление это, с его точки зрения, более социально опасное, чем кажется на первый взгляд. Дело не только в том, что прогульщики плохо учатся. Британские криминалисты установили: существует четкая связь между прогулами и молодежной преступностью. По подсчетам полиции, одно из каждых 20 правонарушений совершается школьниками в учебные часы.

У британского правительства уже готов комплекс мер для решения столь масштабной задачи. Одна идея особенно оригинальна: предлагается обязать родителей заядлых прогульщиков носить при себе пейджеры. В этом случае школа сможет сразу сообщать папам и мамам, что их чад не видно в классе. Одобрена также инициатива 70 торговых центров Британии, где владельцы магазинов договорились не обслуживать школьников в часы учебных занятий.

*По материалам зарубежной печати подготовил* **Михаил ГРИГОРЬЕВ**

*Италия*

# Дезертиром можешь ты не быть...

**26 лет понадобилось итальянским законодателям, чтобы принять, наконец, закон об альтернативной воинской службе.**

Голосование в сенате — верхней палате национального парламента — поставило точку в истории одного из самых «труднопроходимых» законов. Ранее документ был одобрен палатой депутатов.

Таким образом, итальянские граждане, для которых служба в армии противоречит их религиозным или просто моральным убеждениям, получают отныне законное право отказываться от призыва. Для них существует альтернативная гражданская служба — в медицинских учреждениях, в системе социального обеспечения и даже за рубежом — в составе итальянских гуманитарных миссий. Установлены и категории лиц, которым не может быть предоставлено право альтернативной службы: к ним относятся молодые люди, ранее осужденные за правонарушения, связанные с применением оружия или насилия, или даже просто обладатели разрешения на ношение оружия.

Срок альтернативной гражданской службы определен такой же, как и на военной, — 10 месяцев. А наказание для уклоняющихся от армии или гражданской службы установлено в виде тюремного заключения сроком от 6 месяцев до 2 лет. Есть и специальный параграф, относящийся к лицам, которые сознательно отказываются от любой службы, например «свидетелям Иеговы», — они будут содержаться в местах заключения, но не дольше 10 месяцев. Гражданскую альтернативную службу можно будет проходить по месту жительства или в других районах страны по выбору. «Отказниками» будет заниматься специальное управление по альтернативной службе при Совете министров Италии. Этот орган будет заключать контракты с потенциальными работодателями для «отказников». Таких организаций (государственных и частных) сейчас на Апеннинах насчитывается три с половиной тысячи. Фактически система альтернативной службы уже действовала в Италии с 1972 года, на основании временного закона № 772. С тех пор правом на уклонение от службы в армии воспользовались 340 тысяч человек.

Образовательный уровень заявителей выглядит следующим образом: 58 проц. — выпускники вузов, 35 проц. — с законченным средним образованием и 7 проц. — с начальным. Есть и другая статистика — больше половины «отказников» было задействовано в сфере социального обеспечения, 30 проц. — в области культуры, 12 проц. — защиты окружающей среды и три процента — в системе МЧС. Новый закон, учреждающий альтернативную службу на постоянной основе, в основном, вызвал одобрение общественности и правозащитников. Сенаторы от партии «зеленых», например, оценили его как самый важный законодательный акт, одобренный нынешним составом парламента.

Министр обороны страны Беньямино Андреатта заявил в связи с принятием закона, что этот документ по существу тоже носит временный характер, так как конечной целью готовящейся сейчас в Италии военной реформы является создание профессиональной армии на контрактной основе. С одобрением реформы отпадет необходимость и в законе об альтернативной службе, считает министр. Но до этого еще нужно дожить.

**Алексей БУКАЛОВ**



*Самые дорогие города мира*

# Токио, Осака, Гонконг...

**Самым дорогим для иностранцев городом в мире является Токио, а Москва, которая долгое время входила в тройку «лидеров» по этому показателю, опустилась с четвертого места на десятое.**

Таков результат очередного исследования, проведенного организацией «Экономист интеллидженс юнит», которая занимается анализом как мировой экономики в целом, так и состоянием дел в отдельных странах. Список самых «дорогих» городов ведется этой организацией уже десять лет подряд и составляется на основе сопоставления стоимости основных услуг и товаров.

Согласно исследованию, вслед за Токио самым дорогим местом для иностранцев является второй крупный японский город — Осака. На третьем месте — Гонконг, на четвертом — Осло, на пятом — Цюрих. Шестое-седьмое места в списке делят Лондон и столица маленькой африканской страны Габона — Либревиль. На восьмом месте в списке Париж, на девятом — Женева, а замыкает «высшую десятку» Москва. Самый значительный скачок по части дороговизны жизни совершил Лондон, переместившийся с 14-го места на шестое.

По мнению экономистов, это объясняется прежде всего тем, что курс английского фунта стерлингов в последний год был чрезмерно высок по отношению к другим валютам, а это означает для приезжающих автоматическую потерю при обмене валюты. Одновременно стоимость жилья, одежды, продуктов питания и топлива в британской столице оказалась сейчас значительно выше, чем в большинстве других столиц мира. По части оплаты за проезд на общественном транспорте Лондон оказался в числе мировых лидеров.

Любопытно, что списки «Экономист интеллидженс юнит» совершенно не отражают стоимости жизни в крупных столицах для самих горожан. Если же исключить из подсчетов такие показатели, как стоимость гостиничного номера, размер аренды за офис и счета в местных ресторанах, то вырисовывается совершенно иная картина. Москва, при таком подсчете, оказывается чуть ли не в самом конце первой сотни самых дорогих городов. В сравнении с Лондоном, например, стоимость жизни в Москве для местных жителей ниже примерно в пять–шесть раз. Только стоимость жилья в британской столице выше московской примерно в три–четыре раза. Коммунальные услуги в среднем превышают московские расценки примерно в десять раз, цены на продукты — в два–три раза, цены на табак и спиртное — в три раза, а стоимость за проезд на общественном транспорте — в 2,5 раза.

**Александр СИСНЕВ**

*Теннис*

## Мирный – чемпион Уимблдона

Очень успешным для белорусского тенниса выдался нынешний Уимблдонский турнир.

21-летний минчанин Максим Мирный в паре с 16-летней темнокожей американкой Сереной Уильямс выиграли 6 матчей подряд и стали чемпионами в соревнованиях смешанных пар.

Великолепно действовала на травяных кортах Уимблдона и наша знаменитая землячка Наталья Зверева. В одиночном разряде она нанесла поражения выдающимся теннисисткам Штеффи Граф (Германия) и Монике Селеш (США), но в полуфинале вынуждена была уступить француженке Натали Тозья. В соревнованиях женских пар Зверева вместе с олимпийской чемпионкой Линдсей Дэвенпорт (США) дошла до финала.

*Футбол*

## Осталось четверо

Все без исключения четвертьфинальные матчи чемпионата мира по футболу были драматичны и непредсказуемы.

В первом из них французы в общем владели инициативой, но итальянцы сумели и в основное, и в дополнительное время сохранить свои ворота в неприкосновенности. Второй раз на чемпионате пришлось пробивать послематчевые пенальти. Фортуна улыбнулась французам — 4:3.

Пожалуй, самый красивый и яркий поединок провели сборные Бразилии и Дании. Датчане, в рядах которых блистали братья Брайан и Микаэль Лаудрупы, уже на первой минуте повели в счете — 1:0. Тут уж вовсю развернулись бразильцы. Их лидер Роналдо дважды уводил за собой защитников и ювелирно посылал мяч в освобожденный зеленый коридор, куда поочередно врывались Бебето и Ревальдо. Четырехкратные чемпионы мира вышли вперед — 2:1, но датчане не опустили крыльев: во втором тайме Брайан Лаудруп сравнивает счет — 2:2. Бразильцам (Ревальдо) с трудом удалось поставить победную точку — 3:2.

Таким же острым и захватывающим получился матч Голландия — Аргентина, только грубости и симуляции в нем было побольше, а благородства поменьше. При счете 1:1 за несколько минут до конца второго тайма Франк де Бур длиннейшим пасом на 60 метров вывел в штрафную аргентинцев Берхкампа, который изящно обвел защитника и неотразимо пробил — 2:1.

А главная сенсация чемпионата — разгром, учиненный дебютантом мировых финалов сборной Хорватии чемпиону Европы-96 команде Германии, — 3:0. Немцы привезли во Францию команду ветеранов, которым не откажешь в мастерстве и выучке, но явно не хватает игровой фантазии и свежести.

Сегодня вечером в Марселе состоится первый полуфинальный поединок Бразилия — Голландия. Наверняка он будет самым зрелищным на чемпионате. А завтра в Сен-Дени на поле выйдут команды Франции и Хорватии.

Если бразильцы сегодня не выиграют, мир получит нового чемпиона по футболу. Кого?

**Борис ТАСМАН**





*Мінск 3 і 4 ліпеня. На праспекце Скарыны ад Кастрычніцкай плошчы да плошчы Незалежнасці было ўсталявана некалькі канцэртных пляцовак. Можна было пабачыць танцы на любы густ.*

## Турист в наручниках

**Некий гражданин Румынии беспрепятственно пересек три европейские границы в наручниках, сообщает агентство «Рейтер».**

Отважный румын сбежал из полицейского участка в австрийском городе Зальцбург, сел на поезд и скрылся в неизвестном направлении. Поймали его лишь в Париже — бдительного полицейского насторожили наручники явно не французского образца. Румын попал во Францию либо через германскую границу, либо через швейцарскую. Свободолюбивый дух звал дальше — гражданина Румынии поймали, когда тот садился на поезд, следовавший в Брюссель, столицу Бельгии и Европы.

## Вылов шампанского

**В территориальных водах Финляндии разгорелся весьма необычный конфликт между местными жителями и гражданами соседней Швеции.**

Как сообщает «Рейтер», поводом для споров стал груз шампанского, находящийся на борту потопленного в 1916 году финского корабля. Судно везло 5.000 бутылок шампанского, а также бочки с коньяком и винами для русской армии, расквартированной в Финляндии, но было пущено ко дну немецкой подводной лодкой. Два шведских искателя затонувших сокровищ обнаружили корабль и даже подняли на поверхность две бутылки шампанского. Изысканный вкус напитка понравился шведам, а ряд европейских аукционов предложил им свои услуги по продаже древнего напитка. Кладоискатели вернулись к месту кораблекрушения с плавучим краном. Но там уже находилось судно, принадлежащее одному финскому бизнесмену, который объявил, что является потомком владельца затонувшего корабля, и предложил шведам отправляться восвояси. Финская береговая охрана отказалась вмешиваться в спор, заявив, что для этого требуется решение суда. А пока суд да дело, неудачливым кладоискателям приходится издалека наблюдать, как предприимчивый финн поднимает на поверхность тысячедолларовые бутылки шампанского.

## Получить пощечину?

**Более ста пощечин в месяц получает иракский артист Абдалла аль Басри, играющий главную роль в спектакле «Хулиганская шайка» в одном из багдадских театров.**

Пьеса, по ходу которой жена наносит своему супругу пять ударов по щекам, пользуется большим успехом зрителей, особенно женщин. Артист уже сожалеет, что опрометчиво согласился на исполнение роли незадачливого мужа, не предполагая, что постановка получит долгую сценическую жизнь. Спектакль идет в театре уже год, в течение которого Абдалла аль Басри получил почти полторы тысячи пощечин и вошел в историю иракского театра как «битый муж». Претензий к партнерше у артиста нет, но ему не нравится, когда его сценическая жена по-настоящему входит в роль. И все-таки Абдалла тоже по-своему счастлив, ведь благодаря спектаклю он стал знаменитым!

## Джинсы без красителя

**Голубой хлопок создан специалистами американской компании «Монсанто».**

По словам представителей компании, этот «прорыв», достигнутый на основе генной инженерии, способен привести к революционным изменениям на рынке джинсовой продукции, который в США ежегодно оценивается более, чем в 10 млрд. долларов, а в Великобритании — почти в 1,3 млрд. долларов.

Согласно распространенной здесь информации, ученым «Монсанто» удалось перенести на кусты хлопка ген с растения с голубыми цветами — с какого именно, они умалчивают. В результате коробочки хлопка лишились своей девственной белизны и стали голубыми, как безоблачное небо летней порой.

По словам представителей компании, новая хлопчатобумажная ткань для джинсов естественного голубого цвета поступит в коммерческое производство в 2005 году. Вот радость-то будет почитателям этой одежды.

*По сообщениям информационных агентств*

## Итальянским кошкам крупно повезло

**Правда, не всем, а лишь 21 из них — тем, которые живут в доме 64-летней пенсионерки, бывшей школьной учительницы итальянского языка Анджелы Марчеллино в небольшом городке Ачиреале на острове Сицилия.**

Одинокая старушка составила завещание, в котором отказала после своей смерти кошкам все движимое и недвижимое имущество. Наследство, учитывая стоимость городской квартиры, загородного домика и накоплений пенсионерки, составляет весьма внушительную сумму — 1 миллиард 150 миллионов лир (около 700 тыс. долларов).

*«Я решила оставить все моим кошкам, потому что от людей ничего хорошего не дождешься, от них я до сих пор получала одни лишь неприятности»,* — заявила старушка журналистам. Согласно оговоренным в завещании условиям, все наследницы-кошки получают право оставаться в сельском доме хозяйки до самой их смерти. Присматривать за ними за оговоренную в завещании весьма солидную плату будет сельский ветеринар, который сейчас помогает синьоре Марчеллино ухаживать за ее «четвероногими друзьями».

**Игорь ПОЛЬСКИЙ**

# Даты і лёсы

*7 ліпеня*

**1708.** Шведскія войскі занялі Магілёў. Перад адступленнем расійскі гарнізон намерваўся, як зазвычай, спаліць горад, але магілёўцы адкупіліся ад пажару. Тым не менш у верасні па загаду цара горад быў спалены.

**1796.** Нарадзіўся беларускі паэт і фальклярыст Ян Чачот. За ўдзел у руху філаматаў у 1823 г. быў зняволены ў Віленскай турме і сасланы на Урал.

**1882.** Нарадзіўся найслаўны беларускі паэт Янка Купала (Іван Дамінікавіч Луцэвіч).

**1887.** У Віцебску (па некаторых звестках — у Лёзне) нарадзіўся адзін з буйнейшых мастакоў XX стагоддзя Марк Шагал. Некалькі гадоў таму, калі Беларусь ужо была незалежнай, але не мела яшчэ клопатаў з прэзідэнтам, Шагала называлі на Захадзе «самым знакамітым беларусам».

**1982.** Нейкі Майкл Фейган пранік уначы ў Букінгемскі палац, знайшоў спальню каралевы, прысеў на ўскрайчык яе ложка і папрасіў у Елізаветы II цыгарэту. Ахова палаца была ў шоку.

**1988.** Праз Атлантычны акіян і Паўночную Амерыку пераляцеў самы малады пілот. 11-гадовы амерыканец на персанальным самалёце самастойна выканаў трасу ад Сан-Дыега да Парыжа.

*8 ліпеня*

**1812.** Французскія войскі занялі Мінск. За чатыры месяцы вайны насельніцтва горада скарацілася з 12 да 3,5 тыс. жыхароў; многія ўцяклі разам з рэшткамі напалеонаўскага войска.

**1838.** Нарадзіўся вынаходнік дырыжабля нямецкі граф Фердынанд фон Цэпелін (кажуць, што гэта ў ягоны гонар дранікі з мясам на захадзе Беларусі цяпер называюць цэпелінамі).

**1892.** У г.Ла Плата каля Буэнас-Айрэса інспектар паліцыі знайшоў на месцы забойства крывавыя адбіткі пальцаў. Калі іх параўналі з пальцамі падазраванай — маці двух забітых дзяцей, якая спрабавала абвінаваціць у забойстве суседа, — злачынца прызналася. Гэта быў першы выпадак раскрыцця злачынства з дапамогай дактыласкапіі.

**1941.** Пад Лепелем у палон да немцаў трапіў сын Сталіна Якаў Джугашвілі.

**1993.** У Мінску адкрыўся Першы з'езд беларусаў свету. Прадстаўнікі дыяспары віталі незалежнасць, атрыманую Бацькаўшчынай, але далі зразумець, што ўрад БНР у выгнанні ні за што не перадасць свае паўнамоцтвы ўраду Кебіча (улады ў Мінску на гэта разлічвалі).

*9 ліпеня*

**1816.** Аргенціна абвесціла незалежнасць ад Іспаніі.

**1863.** Пакараны смерцю адзін з паплечнікаў Кастуся Каліноўскага — паўстанцкі камандзір Зыгмунт Серакоўскі.

**1887.** На адным з англійскіх банкетаў упершыню з'явіліся папяровыя сурвэткі.

**1935.** У Магілёве пачаў працаваць аўтазавод.

**1938.** Напалоханыя набліжэннем вайны, жыхары Вялікабрытаніі за адзін дзень набылі 35 млн. процівагазаў, што ўпершыню з'явіліся ў вольным продажы.

**1942.** У нацысцкім канцлагеры загінуў кампазітар Міхаіл Крошнер, аўтар першага беларускага балета «Салавей» (1939, паводле аповесці З.Бядулі), кантаты «Тапелец» на вершы А.Пушкіна і «Беларускіх сімфанічных танцаў» (1937).

**1958.** На Алясцы была зарэгістраваная найвышэйшая хваля цунамі: яна пракацілася па затоцы з хуткасцю 160 км/г і дасягала ўвышыню 52,4 м. Навукоўцы мяркуюць, што прычынай цунамі стаў не землятрус, як гэта звычайна бывае, а гіганцкі апоўзень.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Пейте пиво под водой

*Иначе придется гнуть гвозди*

**Международный фестиваль рекордов, который ежегодно проходит в чешском городке Пельгржимов, привлекает самых разных участников, способных удивить публику чем-нибудь этаким.**

Например, выпить под водой за 16,95 секунды пол-литра пива, как это умудрился сделать Юрий Бартушка из Чехии. Глядя на него, Штефан Рожновский выпил 3 литра молока за 14 секунд, после чего у него немедленно случились неприятности с желудком. Видя, что пошла такая пьянка, Милош Конелух тоже налил себе пол-литра пивка, которое для пущей оригинальности выпил, стоя на руках.

Кстати, для страдающих похмельем дельный совет: напилить за 3 минуты механической пилой 48 кусков дерева, как это сделал житель Чехии Губерт Бартман. Разумеется, столько чурок без дела — пустая трата времени. Поэтому на всякий случай немец Райнер Шредернасгибал кучу 18-сантиметровых гвоздей.

Когда Рихард Родович, тоже чех, увидел, как его земляк Али Морович удержал трогающуюся с места «Шкоду» одной шеей, он нырнул под воду и продержался там без воздуха 3 минуты 23 секунды.

Чтобы не ударить в грязь лицом, россиянин Сергей Овсянкин назло заграничным рекордам поднял за одну минуту две 24-килограммовые гири 36 раз. В знак солидарности с ним Владимир Синеглазов сначала выжал эти гири четыре раза, сидя на шпагате, потом встал и выжал пять раз две гири по 52 килограмма, а чтобы бедным чехам и совсем мало не показалось, взял гирю весом 88 килограммов и четыре раза подбросил ее над головой.

А когда Михаил Васильев, вес которого вместе с ботинками едва дотягивает до 60 килограммов, примагнитил к телу 87-килограммовую мраморную доску, все поняли, что имеют дело со сверхъестественной, потому и непобедимой нацией, отчего загрустили. Милослав Янча от грусти взял бочку, налил в нее 5 литров пива и пошел куда глаза глядят. Глаза глядели 36 часов без остановки, Янча прошел 155 километров и шел бы себе дальше, не объяви судья, что фестиваль заканчивается.

**Сергей ПИЧУРИЧКИН**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1209 Нумар падпісаны ў друк 06.07.98 (15:00) Наклад — 19.730